


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета ТУ плюс

12 красавіка 2002 года

№ 15 (364)
Выходзіць па пятніцах

## Навіны рэгіёна

### Жывы ланцужок

**МАЛАДЗЕЧНА**. 7 красавіка, у 3-ю гадавіну раптоўнай смерці былога мэра горада **Генадзя Карпенкі**, прадстаўнікі Аб'яднанай грамадзянскай партыі і Беларускага народнага фронту ўсклалі кветкі ля помніка "Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі". Затым утварылі жывы ланцужок насупраць гандлёвага дома "Няміга-Маладзечна".

**Алесь ЦАДКО.**

### Чорны сакавік

**МЯДЗЕЛ**. Непрыемны рэкорд зафіксаваны ў сакавіку: цягам яго ў раёне памёрла 93 чалавекі. Гэта найбольшая лічба за месяц як мінімум за апошнія дваццаць год. А нарадзілася ў сакавіку 24 дзіцяці.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Сюрпрызы з першай сусветнай

**СМАРГОНЬ**. На мінулым тыдні знайшлі баявыя снарады часоў першай сусветнай вайны.

5 красавіка ў вёсцы Сукневічы работнікі сельгасхіміі знайшлі на полі артылерыйскі снарад. 3 красавіка жыхары вёскі Абрамаўшчына знайшлі ў полі снарад. 1 красавіка ў вёсцы Крэва каля лясніцтва калгаснікі знайшлі снарад і міну.

Група размініравання Смаргонскага райваенкамата абясшкодзіла і ўзарвала снарады ў спецыяльным кар'еры.

**Ірына РАБУШКА.**

### Брат пайшоў на брата

**АШМЯНЫ**. На мінулым тыдні ў Гальшанах падчас сваркі адзін брат ударыў нажом другога. У малодшага паралізавала руку.

Пацярпелы працуе ў калгасе "Гальшаны". Расказаў, што яны з братам пілі гарэлку. Заснулі. Калі прасналіся, заставалася бутэлька. Вось яе і не падзялілі, з-за чаго старэйшы брат узяўся за нож.

**Таццяна АСТРАМОВІЧ.**

### 100-гадовы юбілей

**АСТРАВЕЦ**. У мінулы аўторак жыхарка Дравянік Ганна Якушчонак адзначыла 100-гадовы юбілей.

Нарадзілася юбілярка на Смаргоншчыне, працяглы час жыла ў Вільні, а затым пераехала са сваёй сям'ёй у Дравянікі, дзе жыве і цяпер. Вяскоўцы ў дзень нараджэння Ганны Якушчонак падарылі ёй кветкі і торт.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Гран–пры «Ілаўскаму святочнаму»

**МЯДЗЕЛ**. Найвялікшай ўзнагародай адзначылі прадукцыю УП «Ілаўскае» на шостым міжнародным конкурсе–дэгустацыі він, які прайшоў у пачатку красавіка ў Мінску. «Ілаўскае святочнае» атрымала Гран–пры сярод пладовых він.

Вынік аказаўся стопрацэнтным – толькі гэты від ілаўцы і прывезлі на конкурс. А робіцца «Ілаўскае святочнае» з буякоў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Ілаускія віны трымаюць марку.

## Надвор'е на выхадныя

Субота, 13 красавіка

| | |
|---|---|
| **Мінск** 5°С (уначы) 15°С (удзень) | **Вільня** 6°С (уначы) 16°С (удзень) |

Нядзеля, 14 красавіка

| | |
|---|---|
| **Мінск** 4°С (уначы) 13°С (удзень) | **Вільня** 4°С (уначы) 16°С (удзень) |

# Зробім з бальніцы выцвярэзнік

**МАЛАДЗЕЧНА. Мінскі аблвыканкам выдаў распараджэнне аб ліквідацыі з 1 мая медвыцвярэзнікаў па ўсёй вобласці.**

Прычына – бюджэт не можа фінансаваць гэтыя ўстановы ў поўным аб'ёме. Хаця грошай яны патрабуюць не так і многа – як сказаў намеснік начальніка ГРАУС **Міхаіл Шут**, "кліенты" маладзечанскага медвыцвярэзніка плацяць каля 70% ад сабекошту паслуг. Што будзе пасля 1 мая? Па гэтым пытанні 10 красавіка прайшла нарада ў гарвыканкоме.

Першы намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык**:

– Скасаванне выцвярэзнікаў – няправільны крок. Лепш бы п'янства скарацілі.

Удзельнікі нарады хацелі абавязаць ГРАУС і далей займацца п'янымі, бо медвыцвярэзнікі – структурныя падраздзяленні міліцыі. У рэшце рэшт галоўнаму ўрачу ГТМА **Казіміру Клызе** прапанавалі адкрыць спецыяльнае аддзяленне ў гарадской бальніцы, але ўрач быў рэзка супраць:

– Няхай выцвярэзнікі вызываюць самі і пераходзяць на самаакупляльнасць. Але не ў бальніцы ж размяшчаць п'яных – гэта ж не хворыя!Ператварыць медыцыну ў выцвярэзнік – ніколі.

Міхаіл Шут лічыць, што гарадскі выцвярэзнік патрэбны, але рашэнне аблвыканкома аспрэчыць нельга:

– Перайсці на гасразлік нявыгадна – мы будзем у стратах. За першы квартал ў медвыцвярэзніку пабывалі 1119 чалавек – гэта больш за 13 чалавек у суткі, летась у сярэднім было каля 11 чалавек. Куды іх цяпер дзяваць?

Нельга дапусціць, каб п'яныя валяліся на вуліцах без нагляду. Таму да 20 красавіка Казімір Клыга павінен прадставіць план дзеянняў. Тады ж гарвыканкам і прыме канчатковае рашэнне.

Мы звярнуліся да начальнікаў медвыцвярэзнікаў рэгіёна.

Начальнік Маладзечанскага медвыцвярэзніка **Аляксандр Архіповіч**:

– Выцвярэзнік павінен быць. А як інакш. А работу страціць я не баюся – ўсё адно ўжо на пенсію.

Начальнік Смаргонскага медвыцвярэзніка **Франц Сялінскі**:

– У Гродзенскай вобласці пакуль усё спакойна. Выцвярэзнікі закрываць не трэба. Міліцыі будзе больш работы – куды дзяваць п'яных з вуліц? Яны часцей за ўсё будуць трапляць у рукі злачынцаў, злодзеяў і наркаманаў.

**Ірына РАБУШКА.**

Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Што рабіць з п'янымі, калі закрыюцца выцвярэзнікі? Адказаць на гэта пытанне галоўны ўрач гарадскога тэрытарыяльна-медыцынскага аб'яднання Казімір Клыга павінен да 20 красавіка.**

# У полымя літасці няма

**Сёлета з пачатку пажаранебяспечнага перыяду 106 разоў служба "01" выязджала на тушэнне травы (лічба па стане на раніцу 11 красавіка).**

У асноўным, людзі самавольна падпальвалі старую траву. Вогнішча хутка авалодвала тэрыторыяй у шмат гектараў. У іншых выпадках полымя перакідвалася на гаспабудовы, надворныя збудаванні.

**Колькасць выездаў службы «01» на тушэнне травы з пачатку пажаранебяспечнага перыяду**

| | |
|---|---|
| Маладзечанскі раён | 3 |
| Астравецкі раён | 15 |
| Ашмянскі раён | 3 |
| Валожынскі раён | 28 |
| Вілейскі раён | 14 |
| Мядзельскі раён | 7 |
| Смаргонскі раён | 13 |

**Вясна 2002 года. Паміж Вілейкай і Маладзечнам.** Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

### Пажарныя тонкасці

ВАЛОЖЫН. Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 97 парушальнікаў.

Агульная для рэгіёна прычына пажараў – неасцярожнае абыходжанне з агнём. Экалагічны ўрон невымяральны.

### Чым небяспечнае выпальванне травы

Разам з попелам змываюцца мікраэлементы і мінералы, якія неабходныя для жыцця раслін, глеба бяднее. Расліны на абпаленых участках менш супраціўляюцца розным захворванням. А калі гарыць трава ўздоўж аўтадарог, то адбываецца другасны перанос і "распаўзанне" небяспечных для арганізма чалавека радыенуклідаў і цяжкіх металаў.

### Як засцерагчыся ад пажару

Дзяржінспектар пажарнага нагляду Вілейскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Алена Альфер** раіць жыхарам населеных пунктаў, якія мяжуюць з масівамі сухой травы, выканаць абворванне сваіх вёсак і несці кругласутачную варту.

### Згарэла ферма

АСТРАВЕЦ. Тут згарэлі ферма ў вёсцы Крываносы Міхалішскага сельсавета і нежылы дом на хутары Шаркаўчына Спондаўскага сельсавета. Урон па ферме звыш 16 мільёнаў рублёў.

### Штрафы

Выпальванне сухой расліннасці на тэрыторыі Беларусі караецца. У адпаведнасці з артыкулам 77 Кодэкса Рэспублікі Беларусь "Аб адміністрацыйных правапарушэннях", выпальванне сухой травы цягне накладанне штрафу на грамадзян у памеры ад адной да пяці базавых велічынь (пастановай Савета Міністраў ад 22 лютага 2002 года яна ўстаноўленая ў памеры 10 тысяч рублёў) і на службовых асоб – ад пяці да дваццаці пяці базавых велічынь.

Аб адказнасці за парушэнні пажарнай бяспекі, чытайце ў матэрыяле на 4-й стар.

**Ірына РАБУШКА.**

 



# Уша і Маладачанка. Пробы на чысціню

**МАЛАДЗЕЧНА. Якасць вады ва Ушы і ў вярхоўі Маладачанкі можна ацаніць як здавальняючую. У месцы ўпадзення Маладачанкі ва Ушу вада слаба забруджаная.**

Такі вынік прынясло восеньскае даследванне гэтых дзвюх рэк, якое правёў аўтар. Неабходнасць вывучэння прадыктаваная амаль поўнай адсутнасцю комплекснай інфармацыі пра стан гэтых вадатокаў. Для гэтага адабрана 7 пробаў вады, а таксама апісаны стан рачных далін. Кожную з пробаў апрацавалі ў лабараторыі маніторынгавых даследванняў геафака БДУ.

Стан аховы адкрытых водных аб'ектаў ад траплення ў іх забруджвальнікаў з прылеглых тэрыторый можна ацаніць як нездавальняючы. Зона біялагічнай (з дапамогай прыроднай расліннасці) акумуляцыі бактэрый ёсць толькі ў самым верхнім цячэнні Маладачанкі ад уваходу яе ў горад да выхаду рэчышча на тэрыторыю забудаванага прыватнымі аднапавярховымі жылымі дамамі мікрараёна ў раёне вуліцы Міцкевіча. Тут уздоўж рэчышча размешчаныя парослыя хмызняком і балотнай расліннасцю лугі. Рака прымае тут і невялікі прыток, які пачынаецца недалёка ад чыгункі і з'яўляецца прыроднай перашкодай для развіцця прыватнай забудовы на вуліцах Броўкі і Агінскага.



Рака Маладачанка, 10 красавіка. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

У месцы зліцця яго з Маладачанкай была ўзятая проба вады №1. Яшчэ адна проба (№4) была адабраная за 100 метраў да ўпадзення Маладачанкі ва Ушу.

### Характарыстыка Ушы

Даліна ракі на працягу ўсяго шляху праз горад уяўляе сабой канал-водапрыёмнік для шматлікіх меліярацыйных сістэм. Каналізаваная рачная даліна не мае аніякай абароны ад паступлення хімічных рэчываў з прылеглых тэрыторый, якія разараныя і выкарыстоўваюцца для сельскагаспадарчай вытворчасці. Вакол ракі няма хмызнякоў і пасадкі дрэў уздоўж адхонаў канала, якія маглі б служыць бар'ерам для забруджвальнікаў. Схілы да рэчышча замацаваныя бетоннай пліткай і таксама не могуць служыць для паглынання раствораных сцёкавымі ападкавымі водамі хімічных забруджвальнікаў, якія трапляюць непасрэдна ў раку.

З Ушы было адабрана 5 проб: №2 – на ўваходзе ў горад, №3 – за 100 м пасля ўпадзення р. Маладачанкі, №5 – выхад з возера ў рэкрэацыйнай зоне паралельнага рэчышча ніжэй аўтадарожнага маста на шашы ў бок Вілейкі, №6 – ніжэй чыгуначнага маста за штучным вадаспадам, №7 – за межамі горада ніжэй маста.

**Заўвагі.** 1. Аптымальная кіслотнасць для вады 7,0 адзінак pH. 2. Гранічна дапушчальная канцэнтрацыя хлора ў вадзе – 350 мг/л. 3. Кальцый і магній – паказчык жорсткасці вады. Паказчыкі ў пробах нармальныя. 4. Калій, натрый – высокае ўтрыманне сведчыць пра тэхнагеннае забруджванне. Канцэнтрацыя гэтых элементаў ў пробах невысокая. 5. Перманганантная акісляльнасць ў слабазабруджанай вады 3-5 мг кіслароду/л, у вады здавальняючай чыстаты – 5-8, у забруджанай 8-10. 6. БПК5 – біяхімічнае паглынанне кіслароду – розніца паміж паказчыкам перманганантнай акісляльнасці і БПК5. Калі розніца менш 1 мг/л – вада надзвычай чыстая, 1-2 мг/л – вельмі чыстая, 2-3 – чыстая, 6-8 – забруджаная. 7. Сума іонаў нязначна перавышае прыродны фон.

У мінулыя выхадныя аўтар правёў аналагічнае вымярэнне дзвюх рэк. Вынікі – ў наступным матэрыяле.

**Вадзім ЗУБРЫЦКІ, студэнт 5 курса геафака БДУ.**

**Гідрахімічныя паказчыкі якасці вады рэчак у горадзе Маладзечна**

| Паказчыкі | Адзінкі вымярэння | Нумары пробаў | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| Кіслотнасць | адзінкі pH | 7,55 | 8,15 | 7,40 | 7,90 | 8,07 | 8,15 | 8,00 |
| Хлор | мг/л | 66,7 | 40,1 | 18,8 | 24,8 | 50,0 | 17,0 | 18,3 |
| Кальцый | | 70,5 | 75,4 | 76,2 | 85,8 | 112,2 | 78,6 | 78,6 |
| Магній | мг/л | 13,1 | 17,5 | 25,3 | 16,1 | 24,2 | 18,5 | 18,5 |
| Натрый | мг/л | 45,0 | 7,0 | 8,1 | 12,2 | 36,0 | 8,2 | 17,4 |
| Калій | мг/л | 4,3 | 2,2 | 3,0 | 2,2 | 12,9 | 3,0 | 4,8 |
| Фасфаты | мг фосфара/л | 0,042 | 0,038 | 0,039 | 0,040 | 0,070 | 0,041 | 0,25 |
| Нітрытны азот | міліграм азоту/л | 0,022 | 0,015 | 0,076 | 0,008 | 0,048 | 0,020 | 0,120 |
| Перманганатная акісляльнасць | мг кіслароду/л | 5,3 | 7,2 | 5,9 | 7,7 | 4,7 | 4,9 | 6,1 |
| БПК5 | мг кіслароду/л | 2,4 | 1,5 | - | 7,0 | 2,3 | 1,2 | 0,1 |
| Сума іонаў | мг/л | 492,5 | 404,6 | 406,0 | 470,5 | 540,4 | 412,1 | 438,6 |

■ ЭКАЛОГІЯ

## Вада, якую мы ўжываем

**Па дадзеных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, каля 80% захворванняў, ад якіх штогод памірае 25 мільёнаў чалавек, непасрэдна звязана з якасцю пітной вады.**

Штогод успыхваюць эпідэміі вострых кішэчных захворванняў, абумоўленых водным фактарам перадачы інфекцыі.

Некаторыя віды вірусаў і бактэрый з прычыны тэхнічных непаладак трапляюць у сістэму водазабеспячэння. Напрыклад, вірус гепатыту, прасцейшыя крыптаспарыдыум і інш. Тады праблемы могуць быць вельмі сур'ёзныя!

### Ці выратуе кіпячэнне?

З аднаго боку, кіпячэнне дэзінфіцыруе ваду. А з іншага боку, у ёй застаюцца ўсе нелятучыя таксічныя рэчывы. Паколькі пры кіпячэнні вады частка яе выпараецца, то канцэнтрацыя ядавітых хімічных рэчываў у ёй павышаецца. А пры награванні хлор, які знаходзіцца ў вадзе, уступае ў хімічныя рэакцыі з гэтымі рэчывамі і ўтварае канцэрагены – яды для жывой клеткі. Вось і гатовы кактэйль, які нясе павольнае разбурэнне вашаму арганізму!

Самае простае выйсце, якое вырашае ўсе праблемы, – гэта выкарыстанне бытавога фільтра для ачысткі вады.

### Якія бываюць фільтры

Для арганізма чалавека важна быць абароненым ад шкодных рэчываў у пітной вадзе. Для гэтага існуюць бытавыя водаачышчальныя фільтры.

### Класіфікацыя

Па канструктыўных асаблівасцях бываюць праточныя фільтры, якія маюць, як правіла, рэсурс ад 3000 да 7000 літраў; фільтры збанковага тыпу – рэсурс ад 100 да 500 літраў; насадкі на кран – рэсурс ад 300 да 1000 літраў; фільтры мембраннага тыпу – рэсурс 2500 літраў.

Па прынцыпе работы фільтры падраздзяляюцца на электрахімічныя; механічныя; мембранавыя; сарбцыйныя; сарбцыйныя з дабаўленнем іонаабменных матэрыялаў.

**Людміла ЗУБОВІЧ, біяхімік, грамадская экалагічная арганізацыя «Крыніца».**

## Як уплывае на чалавека перавышэнне канцэнтрацыі хімічных рэчываў у пітной вадзе

**Медзь** ........ паражае ныркі, пячонку
**Нікель** ........ паражае скуру
**Мыш'як, свінец, ртуць** .. паражае нервовую сістэму
**Жалеза** ........ выклікае алергічныя хваробы
**Марганец** ........ развівае анемію, паражае нервовую сістэму
**Кадмій** ........ недабраякасныя пухліны, пашкоджанне касцей
**Хлор** ........ захворванне органаў эндакрыннай сістэмы
**Радыенукліды (свінец, стронцый)** ........ паражае мозг, косці, шчытападобную залозу; у жанчын – яшчэ і малочныя залозы

## Радыяцыя не абмінула наш рэгіён

**21% тэрыторыі краіны знаходзіцца ў зоне радыеактыўнага забруджвання цэзіем-137. Узровень яго ў глебе складае ад 37 кілаБекерэляў на квадратны метр і больш. Не абмінула радыяцыя і наш рэгіён, асабліва мінскую частку – "плямы" ёсць у кожным з чатырох раёнаў.**

На кожным, асабліва харчовым прадпрыемстве ёсць пост радыяцыйнага кантролю, які правярае прадукцыю на наяўнасць цэзію-137. Гэтым жа займаецца і аддзел дзяржнагляду Маладзечанскага Цэнтра стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі, які правёў больш за 100 замераў. Прадукцыя прадпрыемстваў рэгіёна аказалася чыстай. Акрамя гэтага, пітную ваду, дзіцячае харчаванне, бульбу, малако і хлеб перыядычна правяраюць ў абласным Цэнтры гігіены і эпідэміялогіі на наяўнасць стронцыю.

Як паказвае практыка, найбольш насычаныя радыяцыяй дары леса. Грыбы курачкі прыцягваюць да сябе радыяцыю нават ў тых мясцінах, якія лічацца чыстымі. Яшчэ небяспечныя ў гэтым сэнсе чарніцы і дзікая жывёла, якая часам літаральна свеціцца.

**Рырор МІШЧАНКА, начальнік аддзела дзяржнагляду Маладзечанскага Цэнтра стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі.**

## Міжнародны дзень зямлі

Міжнародны дзень зямлі пачаў адзначацца 22 красавіка 1970 па ініцыятыве Гейларда Нельсана – сенатара штата Вісконсін з ЗША. Штуршком для гэтага паслужылі як пагаршэнне экалагічнага становішча ў свеце, так і высадка, незадоўга перад тым чалавека на Месяц. Людзі на свае вочы пабачылі, якая маленькая і бездапаможная наша Зямля. У гэты дзень 100 тысяч чалавек выйшлі на вуліцы, каб паўдзельнічаць у экалагічных конкурсах, лекцыях, шоу. Рух транспарту ў цэнтры Нью-Ёрка загадам мэра быў перакрыты. Гэта была надзвычайная падзея.

Праз 20 год, 22 красавіка 1990 года Дзень Зямлі стаў міжнародным. Тады яго адзначалі больш за 200 чалавек ў 141 краіне.

**Алег БЯГАНСКІ.**

# Выстава дамашніх жывёл

**МАЛАДЗЕЧНА. 10 красавіка ў СШ №5 у рамках экалагічнага тыдня прайшла выстава дамашніх жывёл, якіх выхоўваюць вучні гэтай школы. Гледачы пабачылі марскіх свінак, катоў розных парод, хамякоў і іншых.**

**Насця Малаш** з 4"Б" прынесла ката Вову, якога назвала ў гонар свайго аднакласніка. Гаворыць, што дома ў яе ёсць кот Міша і 6 сабак. **Таня Дударава** з 2"А" паказала хамяка Рысу:

– Хачу яшчэ сабаку займець з прыціснутым хвосцікам. Пекінес, здаецца. Калі мой хамяк будзе на выставе лепшым, то куплю яму новую клетку.

Усім спадабалася труска Сняжана. Ёй ўручылі спецыяльны медаль як самай беласнежнай жывёле. Гаспадыня Сняжаны – **Даша Траскунова** з 6"А". Уваходны білет на выставу каштаваў 10 рублёў. Наведвальнікам прапанавалі пакласці яго ля той жывёлы, якая найбольш спадабалася. Пераможца вызначаўся па найбольшай колькасці галасоў.



Удзельнікі выставы дамашніх жывёл – кот Вова з гаспадыняй Насцяй Малаш. Фота Ірыны РАБУШКІ.

У выніку званне самага шыкоўнага атрымаў кот Цімоша, які сабраў ля сябе 44 білеты. Пераможцу выхоўвае **Аня Агінская** з 6"Б".

**Ірына РАБУШКА.**

## Месячнік пажарнай бяспекі

**МАЛАДЗЕЧНА. З 1 па 30 красавіка ў горадзе і раёне праводзіцца месячнік пажарнай бяспекі.**

У пажаранебяспечны перыяд катэгарычна забараняецца:

– рабіць выпальванне сухой травы, пажніўных рэштак, саломы на палях і іншых гаручых адходаў;

– разводзіць вогнішчы ў лясах, на тарфяніках, у месцах адпачынку, лесапарках, у непасрэднай блізкасці да будынкаў, разнастайных збудаванняў, аўтамабільных дарог;

– выязджаць у лясныя і торфамасівы на аўтамотатрактарнай тэхніцы, не абсталяванай іскрагасільнікамі.

За ўказаныя парушэнні правілаў пажарнай бяспекі грамадзяне прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу на суму да 2 мінімальных заробатных плат.

**Андрэй РАБЕЦ, Цэнтр навучання правілам пажарнай бяспекі Маладзечанскага гарраўаддзела па надзвычайных сітуацыях.**

 

